**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пруські

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

(Заканчэньне з 1-ае старонкі)

рот, мяркуе стварыць, што называецца, пад сябе моцную палітычную структуру.

І, трэба думаць, гэта не танная бравада. Лебедзь, хай сабе ў немалой ступені і папулісцкімі метадамі, набыў сярод простага люду прывабны імідж "свайго хлопца". Звяржэнне ж з уладнага Алімпа, несумненна, толькі дадасць яму ачкоў — такі ўжо менталітэт расійскага электарату, пра што яскрава засведчыў колішні ўзлёт самога Ельцына, небачліва пакрыўджанага Гарбачовым.

Так што пра лебядзіную песню шматлікія камэнтатары сенсацыі, уключаючы аўтара гэтых радкоў, згадваюць, кажучы па шчырасці, хутчэй дзеля прыгожага слоўца. У барацьбе за ўладу генерал Лебедзь далёка не сказаў яшчэ апошняга слова, наадварот — здаецца, не без дапамогі праціўнікаў набыў у ёй дадатковыя шанцы.

(Цікава аб чым гаварыў гэн. Лебедзь з тав. Лукашэнкам у Віскулях? З Масквы надходзяць весткі, што гэта мог быць тайны згавор супраць прэз. Б. Ельцына...)

# Protesters oppose president in Belarus

The Sun

## Lukashenko is seeking near-absolute control

MINSK, Belarus — With this former Soviet republic teetering on the brink of crisis, thousands of demonstrators marched through the streets yesterday to protest President Alexander Lukashenko's plan to gain near-absolute power.

Against a backdrop of red-and-white banners, opposition leaders warned of an impending dictatorship and demanded that he drop his effort to rewrite Belarus' constitution.

But Lukashenko had a message of his own.

Early yesterday morning, army trucks and armored cars rumbled through Minsk as Lukashenko flexed his muscles before convening a meeting of supporters. Portraying himself as a model of flexibility, he offered to delay a referendum on expanding his powers from Nov. 7 to Nov. 24.

But leaving himself on a collision course with the opposition, he stressed that the referendum must ask "the proper questions."

"If you think Lukashenko is the man who will give away the power you gave him, you are wrong," he told the delegates.

Five years after it gained its independence during the disintegration of the Soviet Union, this country appears to be going back in time.

Privatization has come to a screeching halt. To the distress of the West, Belarus has yet to return to Russia 18 nuclear missiles left over from the Soviet Union. Belarus is even festooned with the symbols of the old Communist order. The nationalist symbol of Belarus — a knight astride a charger — has been stripped from the Parliament building, leaving the Soviet hammer and sickle on display.

When seven decades of Soviet rule came to an abrupt end in 1991, the hope was that this newly independent nation of 10 million would reclaim its national traditions and carry out economic reform.

The former director of a collective farm, Lukashenko was elected on a platform of fighting corruption and initially went along with economic changes.

But after taking the first jarring steps toward a capitalist economy, by October last year Belarus was reversing course. The shift back to a command economy was popular with the rural and elderly voters accustomed to the Soviet ways.

Alexander Feduta, a former speech-writer for Lukashenko who broke with the president to join the opposition, said privatization was a concept Lukashenko found hard to accept. "He thought it was just robbing the state," he said. "He could not agree to something independent of him. He thought it was stolen power."

As the economy has declined, Lukashenko has cracked down on his critics. Television news was put under tight government control.

Instead of covering yesterday's demonstration, state television presented a program on folklore and then man-in-the-street interviews with citizens who backed the president.

In another turn toward the past, Lukashenko has sought to prop up his ailing economy by cementing a confederation with Russia. And apparently in an effort to bargain for more aid, he has delayed the return of the nuclear missiles to Russia.

The demonstration yesterday was sparked by Lukashenko's plan to hold a national referendum Nov. 7 — the old Soviet holiday commemorating the Bolshevik revolution — to amend the constitution.

The adoption of the referendum would extend the president's term five years and give him the power to appoint members of Belarus' Constitutional Court and Parliament, two institutions that have challenged Lukashenko's policies.

On Friday, the Clinton administration said the constitutional changes proposed by Lukashenko "would fail to provide any semblance of separation of powers" or protect the right of individuals.



**In the streets:** *Demonstrators in Minsk protest proposed constitutional changes that would enhance the power of the president.*

# ДАВЕДНІК ПРА БЕЛАРУСЬ

**Упершыню выпушчаны поўны даведнік пра Беларусь на нямецкай мове. Выйшаў ён у мюнхенскім выдавецтве "С. Я. Веск", складзены Дзіркам Хольбругe і змяшчае звесткі аб гарадах, рэгіёнах, гісторыі, палітыцы, эканоміцы і культуры нашай краіны. У ім закранута і экалагічная сітуацыя на Беларусі, звязаная з Чарнобылем. Даведнік праілюстраваны картамі, табліцамі, статыстычнымі данымі.**

**У сувязі з выхадам даведніка часопіс "Devtschland" піша, што "Беларусь, краіна з багатымі культурнымі традыцыямі і вялікім эканамічным патэнцыялам, па-ранейшаму з'яўляецца адной з найменш вядомых краін Еўропы". У мэтах большага знаёмства з Беларуссю і з'явілася гэтае выданне.**

**А. Г.**

***У той час, калі ўсе нашыя суседзі мэтанакіравана адбудоўваюць незалежнае, заможнае жыццё, Беларусь усё яшчэ змагаецца сама з сабой. Польшча, Украіна, Літва, Латвія даўно адкінулі прэч "шчаслівае" мінулае, а Беларусь усё яшчэ чапляецца за яго, мроячы то пра справядлівы "рынкавы сацыялізм", то пра дабрачынную "братнюю дружбу". Увесь свет дзівіцца з гора-народа, які замест таго, каб жыць у сваім уласным доме, мкнецца, пнецца ў суседскі інтэрнат. Увесь свет дзівіцца з гора-народа, які напрыканцы XX стагоддзя "сатварыў сабе куміра" і гатовы аддаць пад яго неабмежаваную ўладу свой лёс і будучыню сваіх дзяцей... Менавіта такой бачыцца сёння Беларусь збоку, знешне, менавіта такой паказваюць яе прэзідэнцкія сродкі масавай інфармацыі. Хоць мы і ведаем, што гэта не зусім так. Ёсць на Беларусі яшчэ сілы, якія супрацьстаяць насоўванню карычневай хмары дыктатуры. Не ўсё яшчэ страчана, барацьба за Беларусь працягваецца. І вырашальнымі ў ёй, гэтай барацьбе, могуць стаць якраз сённяшні і заўтрашні дні.***

# Brides are leaving Belarus

By Mikola VAITOVICH

This year, 160 Belarusian girls have taken foreigners as husbands in Minsk alone.

Last year, Minsk's registry offices recorded 300 marriages with foreign nationals from 34 different countries, mostly from Germany, Israel and Syria, as well as the Unites States, France, Italy, Switzerland and Poland. Precedents were set of Belarusian women marrying citizens of India, Japan, China, Cyprus, Nepal and Peru.

Similar to locals, foreigners would prefer to have a full wedding ceremony at the registration office rather than simply putting their signatures in a register and their marriage certificates. Some are surprised that they cannot do so to any music other than Mendelssohn's wedding march.

The marriage registration fee is 142,000 roubles, regardless of citizenship. Surprisingly enough, few registration offices in Minsk have had language problems during the wedding ceremony, although sometimes translation was required.

Most foreigners marrying Belarusians decide to have their wedding ceremonies performed in Minsk just to try a different way.

In order to register a marriage, registration offices require a notarised translation into Russian or Belarusian of a document stating the individual's family marital status, along with a passport or other identification. Complaints about bureacracy, which doesn't seem to have changed since the Soviet times, are still frequent.

The newly-weds are issued marriage certificates in the Russian language which still have the emblem of the old Soviet Union on them.

After marrying, about one-half of the brides choose to keep their maiden names, while the rest adopt the last names of their husbands.

Some choose to have a dual last name. Under the Belarusian law, a last name cannot be composed of more than two parts.

Most Germans, Belgians and Israelis take their wives home with them after marrying, while the Syrians and the Pakistani choose to settle in Belarus.

Girls get to know their future husbands on overseas business trips, holidays abroad, or in Belarus, where foreign people come to do business.

A much smaller number of male Belarusians marry foreign women. Girls in their own country just seem to be the best. ■




# McDonald's has come

Belarus may become the 100th country of the world to accommodate fast food restaurants of the international chain McDonald's.

A ceremony to mark the coming of McDonald's to Belarus has been scheduled for December 10.

The first three McDonald's will be opened in Minsk and are centrally located for customers' convenience in Prospect Dzerzhinskogo, near Ploschad Bangalor and on the upper floor of the cafe Svitanak, specially rebuilt to house a MacDonald's catering outlet.

Next year, the company plans to build a McDonald's in every provincial capital of Belarus. By the year 2000 the company expects to be running at least 60 McDonald's restaurants across the country...

# АПАЗІЦЫЙНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ Ў МІНСКУ ПРАЙШЛІ МІРНА

**18 кастрычніка ў Палацы культуры прафсаюзаў прайшоў альтэрнатыўны Нацыянальны кангрэс у абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры. Удзельнічала ў ім каля 1300 дэлегатаў, прадстаўнікі 16 палітычных партый, многіх грамадскіх арганізацый, дэпутаты Вярхоўнага і мясцовых Саветаў, у якасці гасцей прысутнічалі парламентарыі з Польшчы і ФРГ.**

Акрэдытавана на ім было 127 журналістаў з 68 сродкаў масавай інфармацыі. Форум прайшоў у сціслыя тэрміны: з 13 гадзін да 17.30, доўгіх прамоў практычна не было, гаварылі ўсе выступаючыя фактычна аб адным і тым жа: яны жорстка крытыкавалі палітыку А. Лукашэнкі і прапанаваны ім праект новай Канстытуцыі, заяўлялі аб «жахлівым прывідзе дыктатуры» (Янка Брыль), аб «духу праціборства, які ўбіваецца ў розум людзей, хлусні і паклёпе, хамстве і дзікунстве, пошуку шпіёнаў і ворагаў у дзеянні стваральніцкага сучаснага рэжыму» (Г. Карпенка), аб тым, што праект дзеючай Канстытуцыі тры разы публікаваўся ў друку, ён распрацоўваўся 3,5 года, і кожны грамадзянін мог выказаць свае пажаданні без усякага ўціску» (М. Грыб), што «усе правы асобы, пералічаныя ў Дэкларацыі правоў чалавека, парушаюцца ў нас» (Ю. Хадыка) і г. д. Акрамя таго выступалі П. Краўчанка, Л. Пеціна, А. Вольскі, У. Заблоцкі, П. Знавец і іншыя.

Усе выступленні былі надзвычай вострымі і крытычнымі, эмацыянальнымі, прыводзіліся розныя кампраметуючыя факты: аб дзейнасці «Торгэкспо», аб размеркаванні турэцкага крэдыту на будаўніцтва бараў і казіно... М. Грыб, подпіс якога стаіць пад дзеючай Канстытуцыяй, заявіў, што «сёння няма ніякіх абгрунтаваных падстаў для змены Канстытуцыі 1994 года», але ён зазначыў, што ёсць у ёй і недасканаласці, у прыватнасці, не былі прыняты палажэнні аб прафесіянальным парламенце, што дае магчымасць для ціску на сённяшніх дэпутатаў, не было зроблена спалучэнне пасад прэм'ер-міністра і прэзідэнта, што прынізіла ўрад і дало магчымасць стварыць іншы неафіцыйны ўрад — кіраўніцтва справамі і прэзідэнцкую вертыкаль, не адменена магчымасць стварэння пазабюджэтных фондаў і інш. «Мы не супраць змяненняў Канстытуцыі законным шляхам, мы супраць агульнага галасавання па ўсіх змяненнях і паспешлівасці», — заявіў М. Грыб. Ён таксама зазначыў, што на рэферэндум выносіцца, на яго думку, не праект змяненняў і дапаўненняў, а новы варыянт канстытуцыі, чаго нельга рабіць паводле дзеючага Асноўнага закона. Згодна заключэння вядомага юрыста Антона Матусевіча, паводле прапанаванага А. Лукашэнкам праекта Канстытуцыі, «суб'ектыўна прэзідэнт будзе замыкаць на сабе ўсю ўладу». Аб гэтым жа сцвярджаюць заключэнні экспертаў Савета Еўропы, пра якія расказаў на кангрэсе П. Краўчанка. Фактычна ніхто на гэтым кангрэсе не выступіў з падтрымкай дзеючага Прэзідэнта і ягонага праекта Канстытуцыі.

На кангрэс паступілі прывітальныя тэлеграмы з Венгрыі, Чэхіі, ЗША — у цэлым болей, чым з 20 краін свету. Вядомы польскі парламентарый, член фракцыі Уніі свабоды Багдан Барусевіч асабіста выступіў на гэтым кангрэсе і зазначыў, што справа дэмакратыі ў Беларусі вельмі важная і для Польшчы, і што яна з'яўляецца падставай добрых адносінаў паміж нашымі краінамі. «Беларуссю вельмі цікавяцца цяпер у Польшчы, даўно такога не было, але гэта адбываецца, на жаль, не з лепшай нагоды», — зазначыў Б. Барусевіч і заявіў, што калі Вярхоўны Савет Беларусі будзе незаконна заменены іншым органам, то польскія парламентарыі будуць пратэставаць і падтрымліваць сувязі толькі з ВС.

Такім чынам, гэты кангрэс стаў аднадушным апазіцыйным А. Лукашэнку форумам, які павінен быў прадэманстраваць, што частка беларускага народа не падтрымлівае Прэзідэнта. У рэзалюцыі кангрэсу зазначаецца, што «галоўнай крыніцай напружанасці ў краіне з'яўляецца Прэзідэнт Лукашэнка», якому выказаны абвінавачванні ў невыкананні абяцанняў, хлусні, прыніжэнні Саветаў, уціску свабоды слова, абражэнні нацыянальнага гонару беларусаў, карупцыі, бескантрольным распараджэнні дзяржаўнымі сродкамі, парушэнні законаў... Па-другое, на кангрэсе выпрацоўвалася тактыка дзеянняў апазіцыйных сіл у сённяшняй палітычнай сітуацыі. Генадзь Карпенка, у прыватнасці, заявіў, што дэмакратычныя сілы «не павінны байкатаваць рэферэндум, бо пераламаць сітуацыю можна толькі актыўнымі дзеяннямі, трэба весці растлумачальную працу, арганізоўваць кантроль за галасаваннем». У звароце да грамадзян Беларусі Кангрэс заклікаў іх прыйсці на рэферэндум 24 лістапада і прагаласаваць супраць прэзідэнцкага праекта канстытуцыі. Акрамя таго, у прынятай на кангрэсе рэзалюцыі зазначаецца аб падтрымцы патрабавання «круглага стала» па законнаму адхіленню ад улады А. Лукашэнкі, аб падтрымцы Грамадскай кантрольнай камісіі па забеспячэнню законнасці ў ходзе правядзення рэферэндуму і выбараў, рэкамендуецца ўдзельнікам «круглага стала» стварыць Грамадскі эканамічны савет па распрацоўцы праграмы выхаду з крызісу, якая магла б у далейшым стаць асновай для працы ўрада народнага даверу, стварыць грамадзянскую камісію на чале з Ю. Захаранкам па расследаванню злачынстваў улад супраць канстытуцыі і народа. Асобным пунктам рэзалюцыі кангрэс выказаў падтрымку Вярхоўнаму савету Беларусі «як гаранту законнасці і канстытуцыйнасці ў краіне» і заклікаў яго правесці з'езд саветаў Беларусі.

Своеасаблівым працягам кангрэса быў учарашні мітынг у падтрымку Канстытуцыі супраць дыктатуры, які прайшоў каля опернага тэатра. Сабраў ён па розных ацэнках ад 20 да 30 тысяч чалавек са сталіцы і іншых беларускіх гарадоў. Напярэдадні была апублікавана інфармацыя аб магчымых разгонах апазіцыйных мітынгаў і шэсця з прымяненнем спецсродкаў, аднак на гэты раз абышлося без правакацый, без сутыкненняў паміж дэманстрантамі і сіламі аховы правапарадку. Апошнія прысутнічалі на подступах да Палаца спорту ў вялікай колькасці і пры любым раскладзе не дапусцілі б туды дэманстрантаў. Пачаліся апазіцыйныя акцыі каля 11 гадзін, калі калоны дэманстрантаў пад бела-чырвона-белымі сцягамі пачалі рух ад плошчы Якуба Коласа па адной паласе праспекта Скарыны і тратуары. Арганізатары мітынгу знайшлі паразуменне з прадстаўнікамі міліцыі і гарвыканкома і змаглі забяспечыць парадак і бяспеку грамадзян. Шэсце было на дзіва мірнае і спакойнае. Выступленні на мітынгу, зразумела, былі ў асноўным антыпрэзідэнцкія, выказваліся пераважна тыя прамоўцы, што і на кангрэсе, а акрамя таго на гэтым мітынгу дэкламавалі патрыятычныя вершы і бард Эдуард Акулін спяваў свае песні... За выключэннем спалення чырвона-зялёнага сцяга ніякіх эксцэсаў на мітынгу заўважыць не ўдалося. Арганізатары гэтага мерапрыемства, і ў прыватнасці Ю. Хадыка, не хавалі свайго задавальнення ад таго, што на гэты раз усё завяршылася мірна і што на мітынг прыйшло шмат людзей.

Пасля завяршэння мітынгу частка яго ўдзельнікаў, пераважна моладзь, пайшла на Нямігу, бліжэй да Палаца спорту, прыкладна 2-3 тысячы чалавек былі спынены сіламі аховы правапарадку і патроху разышліся. Адзін раз толькі здалося, што можа стварыцца «няштатная сітуацыя», калі дэманстранты пачалі абсвістваць аўтобусы з дэлегатамі Усебеларускага народнага сходу, што праязджалі міма. Але, дзякуй Богу, абышлося...

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**





Уважаемые товарышчы пенсионеры, ветераны, жэншчыны!

# Летапісец Беларусі

***Шкада, што Мікола Ермаловіч не нарадзіўся ў XIX стагоддзі, бо ўжо тады з'явілася б "Старажытная Беларусь", і Янка Купала не наракаў бы: "А беларусы нічога не маюць".***

***Так, гэтая кніга была б вельмі патрэбнай для беларускага Адраджэння, але і напрыканцы XX стагоддзя яна стала адкрыццём старажытнай Беларусі. Сапраўдная гераічная эпапея беларусаў, гісторыя нашага змагання за сваю зямлю, трагічная і крывавая, хроніка будаўніцтва нашай дзяржавы.***

Міколу Ермаловіча можна назваць летапісцам Беларусі, які рупліва збірае кожны факт для свайго летапісу. Міколу Ермаловіча можна назваць даследчыкам, які адважыўся раскрыць таямніцу "літоўскага сфінкса" і раскрыў яе. Міколу Ермаловіча можна назваць патрыётам Бацькаўшчыны. А як інакш? Яшчэ Мацей Мяхоўскі заўважыў, што гісторык павінен быць патрыётам. А тое, што Мікола Ермаловіч адзін з лепшых беларускіх гісторыкаў — бясспрэчна. Хаця смелыя і неардынарныя погляды Ермаловіча адны прымаюць, а другія, наадварот — абвяргаюць.

Канешне, кожны мае права на сваю трактоўку той ці іншай падзеі. Але калі нават апусціць высновы Ермаловіча, дык усё роўна застаецца тая скарбніца фактаў, якія ён сабраў, бо гэта тое багацце, за якое варта мовіць гісторыку "дзякуй".

Пра Міколу Ермаловіча можна сказаць, што ён выратаваў гонар беларускай інтэлігенцыі — не здраджваў сваёй беларускасці, не прагінаўся перад уладай, не ішоў услед за кан'юнктуршчыкамі ад гісторыі. А калі казаць вобразна, дык Мікола Ермаловіч сарваў пагоны з плеч многіх генералаў ад гісторыі. Такі вось лёс гэтага чалавека, патрыёта і гісторыка.

Аднойчы, задумаўшыся, а чаму "беларусы нічога не маюць", ён адкрыў летапісы — гэтак нарадзіўся гісторык. Год за годам ён штудуе летапісы, вывучае гістарычныя крыніцы і піша Летапіс Беларусі.

Ужо першыя публікацыі Ермаловіча ўлады сустрэлі ў штыкі. Ад афіцыйных гісторыкаў быў накіраваны ліст у ЦК, каб не друкаваць Ермаловіча, які сцвярджае аб існаванні ў мінулым у беларусаў сваёй дзяржавы. І забаранялі, і не друкавалі. Але працы Ермаловіча хадзілі па руках, іх чыталі, іх вывучалі, а той-сёй і выкарыстоўваў у сваіх даследаваннях.

Надыйшоў час — і яны пабачылі свет. У 1988 годзе часопіс "Маладосць" на сваю адказнасць і рызыку надрукаваў "Старажытную Беларусь". Праз два гады кніга выйшла асобным выданнем, а другая яе частка ў 1994 годзе. Другая праца Міколы Ермаловіча — "Па слядах аднаго міфа" — была надрукавана ў 1989 годзе. Дзяржава, ужо незалежная Рэспубліка Беларусь, годна адзначыла заслугі Міколы Ермаловіча перад народам: яму прысудзілі Дзяржаўную прэмію. Гэта было прызнанне сцвярджэння гісторыка, што беларуская дзяржаўнасць мае даўнія традыцыі, якія развіваліся ў гісторыі Полацкага, Турава-Пінскага княстваў, Вялікага княства Літоўскага. Гэта палажэнне лягло ў прэамбулу Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Можна спрачацца, ці мае Мікола Ермаловіч рацыю, вызначыўшы месцазнаходжанне летапіснай Літвы ў Верхнім Панямонні, ці адпавядае ісціне ягоная канцэпцыя ўтварэння Вялікага княства Літоўскага, але адназначна, што ён першы з гісторыкаў абвергнуў старыя догмы, звязаныя з гэтымі пытаннямі. Ён жа адзначыў і выключную ролю Навагрудка ў збіранні беларускіх земляў у адну дзяржаву і значэнне навагрудскага князя Войшалка, які, абапіраючыся на навагрудцаў і пінян, стаў фактычным заснавальнікам Вялікага княства Літоўскага. Тое, на што ясна ўказвалі летапісы, убачыў Мікола Ермаловіч. А старажытныя летапісы не перабільць, і калі яны пішуць аб заваёве навагрудцамі і пінянамі Літвы, дык лагічная выснова М. Ермаловіча, што ВКЛ складвалася перад усім як беларуская дзяржава.



**Фота Віталя Савіча**

Гісторыкі на Бацькаўшчыне адзначылі дзесятыя ўгодкі ад дня сьмерці вялікага беларускага гісторыка — Міколы Ўлашчыка. Мы далучаемся да гэтага адзначэньня бо: папершае ў заходнім навуковым сьвеце ніхто пасьля Мітрафана Доўнар-Запольскага ды Яўхіма Карскага не прыцягнуў гэтулькі ўвагі да гісторыі Беларусі як Мікола Ўлашчык. Ягоныя працы аналізаваліся і ў Бэрліне і ў Сарбоне, Гарвардзе, Прынстане ды Стамфордзе. Аб Улашчыку пісалі дзесяткі больших дасьледчых часапісаў.

Ніжэй мы передрукоўваем артыкул прысьвечаны М. Улашчыку, які напісаў у 1986 г. Вітаўт Зубкоўскі (Вітаўт Кіпель).

## Памяці Міколы Улашчыка

Беларуская гістарычная навука панесла цяжкую страту: на 81-м годзе жыцця памёр гісторык Мікола Улашчык. Памёр далёка ад Менску, у Маскве, як некалі ў Маскве памерлі і Янка Купала, і Ўладзімір Дубоўка. Слушна напісана ў некралогу па нябожчыку ў газэце «Літаратура і мастацтва» за 26 лістапада 1986 г.: «... У асобе Улашчыка беларускі народ атрымаў яшчэ аднаго волата. Сваімі гістарычнымі працамі Мікола Улашчык зрабіў тое, што раней для беларусаў зрабілі класікі нашай літаратуры Янка Купала, Максім Багдановіч, Якуб Колас, Максім Гарэцкі ...».

Так, спадчына Мікалая Улашчыка для беларускай гістарыяграфіі і гісторыі сапраўды піянерская, волатаўская. Волатаўская яшчэ й пад тым поглядам, што працаваць гісторыку давялося далёка не ў спрыяльных абставінах. У некралогу па Улашчыку не даецца некаторых важных дэталяў біяграфіі нябожчыка, а колькі з гэтых дэталяў, канешне, трэба падкрэсьліць.

Мікола Улашчык нарадзіўся недалёка ад Менску. Вучыўся ў Беларускім Дзяржаўным унівэрсітэце, якраз у тым часе, калі унівэрсітэт перажываў сваю «залатую пару»: усё тут было беларускае — мова, навучальныя праграмы, дасьледчыцкая праца, а галоўнае, на унівэрсітэце быў беларускі дух.

Мікола Улашчык, студэнт гістарычнага факультэта, глыбока ўцягнуўся ў навуку, а разам з тым і ў грамадскае жыццё. Ён дапамагаў арганізоўваць краязнаўчыя экспэдыцыі, школьна-навучальныя праграмы, бадай сам адзін апрацоўваў матэрыялы для Летапісу Беларускага Друку.

Плённая і шматабяцальная праца маладога беларускага гісторыка, як і сотняў ягоных калегаў, была раптоўна абарваная ў 1930 г. Пагром беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі ў БССР, які ўвайшоў у гісторыю як разгром «нацдэмаўшчыны», перапыніў, а ў шмат чым зусім спыніў беларускую навуковую і грамадскую працу. Сотні людзей былі арыштаваныя, і доля не судзіла ім больш вярнуцца ў Беларусь.

У біяграфічнай нататцы пра Міколу Улашчыка ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі пра 1930 год сказана так: «З 1930 г. працаваў у РСФСР і Сярэдняй Азіі». Вось гэтак каротка, лаканічна, а калі ўдумацца, дык проста трагічна і жудасна несправядліва — без ніякае віны, людзей вырывалі з карэннем ды разганялі ў розныя часткі вялізарнае Імпэрыі. А ўдакладніць гэты перыяд можна хоць-бы з аднае крыніцы: Яўхім Кіпель, арыштаваны ў 1930 г. таксама як «нацдэм», пакінуў Беларускаму Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку ўспаміны з тае пары. У гэтых успамінах ёсць такія радкі:

«У горад Налінск нас дабралася трох: я, Мікола Азбукін і Мікола Ўлашчык. Налінск быў месцам нашай высылкі. З бліжэйшых да нас высланых нацдэмаў былі ў горадзе Глазаве Антон Адамовіч, ва Уржуме Жылка, Сасіновіч і яшчэ нехта, а ў горадзе Вятцы было таксама колькі чалавек. Горад Налінск ляжыць далёка ад усіх камунікацыйных шляхоў (да бліжэйшай чыгуначнай станцыі ад Налінску было каля сотні кіламетраў), і выбрацца з Налінску было ня так проста, а ўзімку й наогул немагчыма.

Высланцы ў Налінску — не навіна, сюды высылаў і царскі ўрад. Мы, высланыя беларусы, адразу мусілі зарэгістравацца ў міліцыі і штотыдня рапартаваць аб нашых занятках.

Працу ў Налінску было знайсці няцяжка, але не на кожную працу высланым міліцыя давала дазвол. Мне было лягчэй, бо я ўладзіўся спачатку ў хімічную лабараторыю. Азбукін пачаў працаваць недзе на складзе, а Улашчык даўгавата пахадзіў без працы. Праўда, ня гледзячы на перасцярогі міліцыі „не общаться", мы адзін аднаму дапамагалі як маглі. Нам дазволілі атрымліваць пачкі з дому. Асабліва крута было з вопраткай, і мы былі вельмі радыя нармальна апрануцца. Тым болей, што надыходзіла зіма.

Каб пазбегнуць непрыемнасцяў, пагутарыць мы спатыкаліся далёка за горадам. Азбукін далёка хадзіць не любіў, а мы з Міколам Улашчыкам хадзілі доўга і далёка па налінскіх ваколіцах. Аднойчы Мікола выказаў мне свае погляды на далейшыя планы. Я яго падтрымаў і чым мог дапамог. Хутка мы з ім разлучыліся — ён выехаў, а мяне з Налінску перакінулі ў Вятку, і там, у Вятцы, і мне, і Адамовічу прадоўжылі тэрміны высылкі.

У Вятцы мне было сказана ў НКВД, што я ніколі не змагу вярнуцца ў БССР. Пры спатканні з кімсьці з нацдэмаў мне таксама сказалі, што ніводнаму нацдэму ў Беларусь ня будзе дазволена вярнуцца, а можна будзе пражываць толькі ў Расіі».

Вось-жа зусім ясна, чаму ні Мікола Улашчык, ні Ўладзімір Дубоўка, ні Максім Гарэцкі, ні яшчэ тысячы беларускіх патрыётаў не змаглі вярнуцца на радзіму, а змушаныя былі, як некалі пад царскай уладай паўстанцы 1863 г., навечна жыць у чужой Расіі. Савецкая ўлада пад гэтым поглядам ня розніцца ад царскай, ды нездарма пра яе людзі кажуць: «Савецкая ўлада ніколі і нічога не забывае».

*Вітаўт Зубкоўскі*

***Гэта гутарка з Васілём БЫКАВЫМ запісана ў мінулым годзе, пасля першага вядомага рэферэндуму па сімволіцы і да т.п. і выбараў у Вярхоўны Савет, але па збегу абставін не трапіла ў друк. Здавалася б, час мінуў, і павінны былі б змяніцца ацэнкі падзей і прагнозы на будучае. Аднак жа выношу гутарку на аўдыторыю, бо перакананы: у плыні бягучых падзей і апантанай барацьбы нельга забывацца пра кантэкст больш шырокі — кантэкст, скажам так, гісторыі і ягоны ўплыў на дзень сённяшні. Напэўна, менавіта гэта маюць на ўвазе, калі кажуць: "У гісторыі свая логіка".***

**Юрась ЗАЛОСКА**

## "СЁННЯ СУМЛЕННЫ ЧАЛАВЕК МОЖА ТОЛЬКІ РАЗВЕСЦІ РУКАМІ..."

ЛіМ, 13 верасня 1996

**— У нашых гутарках, Васіль Уладзіміравіч, не адзін раз узнікалі рэмінісцэнцыі наконт "недаразвітасці народа". Вы як пісьменнік даволі хутка набылі папулярнасць і мелі магчымасць бачыць, як ставяцца да пісьменнікаў за мяжой і ў нас. Ці не было ў вас шкадавання, што вы — пісьменнік вось гэтага народа?**

— Юрась, я скажу, што для мяне даўно ўжо з'яўляецца праблемай само існаванне "народа"... Асабліва цяпер я пачынаю думаць, што пакуль мы шчыравалі "дзеля народа", кляліся імем народа — у нас яго ўкралі. Засталася нейкая нацыянальная эліта, а нацыянальнай, народнай асновы — не стала. Не стала народа. Я гэта гавару баючыся, як нейкае святатацтва, як у ранейшыя часы гаварылі пра д'ябла і Бога. Але сапраўды, калі мы гаворым "народ, беларускі народ" — то гэта ўвогуле абстракцыя, гэта — па інерцыі. Калі ж канкрэтней паспрабаваць сабе ўявіць, а дзе ён, гэты народ, дзе яго часткі ці хоць бы нейкая значная частка? Раней гэта было проста: існавала сялянства, яно было моўнай, культурнай, генетычнай, этнаграфічнай і г.д. асновай нацыі. Цяпер сялянства няма. Дзе цяпер сялянства? Дажываючыя пенсіянеры-калгаснікі ў вёсках ці элітныя спецыялісты ў сельскай гаспадарцы (аграномы, заатэхнікі і інш.) — хіба яны могуць уважацца за аснову нацыі? Я вельмі ў гэтым сумняваюся... Дык вось калі культурная эліта развівала культуру — для "беларускага народа", — ЗНІК САМ НАРОД. Горад, урбанізаванае насельніцтва гарадоў, — баюся, гэта ўжо не беларускі народ; яно з Беларуссю нічога агульнага не мае, апроч, хіба што, тэрыторыі пражывання. Менск — горад "беларускі" толькі таму, што ён знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі, а ў астатнім якая яго адрознасць, скажам, ад Смаленска, Цвері, Масквы? Чым ён ад іх адрозніваецца?..

**— Бадай аб'явамі ў метро...**

— Вот іменна — аб'явамі ў метро... І раптам з'явіліся бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоня", якія тут жа былі скасаваны — "па волі народа"...

**— Яны, калі папраўдзе, адпачатку псіхалагічна не прымаліся. Мяне даўно дзівіла гэтая спадзяванка БНФ на "народ", каторы з цягам часу, маўляў, "нацыянальна ўсвядоміцца", ачуняе і падтрымае Адраджэнне. Аднак жа заклікі і палітыка БНФ ані не працавала на пабытовым узроўні — як зараз "не працуе" мова.**

— Вот іменна. І пагэтаму, можа быць, з-за таго і атрымалася цяпер такая параза, што ідэя Адраджэння — ідэя, канечне, правільная, высакародная, ва ўсіх адносінах цудоўная — трапіла не на тую глебу. Вот у чым справа. Можа быць, яна трапіла зарана...

У гэткіх абставінах, асабліва ў палітычных абставінах апошняга часу, — адзінае, што, можа быць, застаецца для дзеячаў культуры, — гэта кансерваваць тое, што ёсць — у галіне культуры, нацыянальнай ідэалогіі. Таму што калі і надалей справа пойдзе гэтак жа, то будуць зроблены захады дзеля таго, каб матэрыяльна панішчыць тое, што напрацавана за гэты час: забяруць з бібліятэк, пахаваюць у "спецхраны" выданні Ластоўскага, нацыянал-дэмакратаў, незалежную гістарыяграфію, пэўныя творы мастацкай літаратуры. А ў дадатак будзе разгорнута шалёная кампанія па дыскрэдытацыі — спярша ідэй, затым канкрэтных твораў, а пасля — іх аўтараў. Калі жывых яшчэ можна пасадзіць, то ў нябожчыкаў будуць знаходзіць нейкі кампрамат і таксама бэсціць, для таго каб скасаваць іх прыцягальны імідж. Гэта будзе зроблена, таму што камуна-фашызм абавязкова пакарыстаецца такімі метадамі. Інакш чым жа ён будзе карыстацца? Праўда — не іх рэлігія. Іх рэлігія — бязмежная хлусня. Чым яна бязмежней, тым лепш. Для нашых кіраўнікоў гэта вельмі здатны і плённы прыём...

**— Чым асабіста вы ратуецеся ў такой сітуацыі: пісьмовым сталом, дачай?**

— Нічым я не ратуюся. Кідаюся так, туды-сюды, чым жа тут можна ўратавацца — ў такі час? Як пісаў адзін разумны расейскі аўтар: "старость — это одиночная камера знания". У тым, можа быць, і паратунак, — каб ведаць. Сядзець у гэткай "адзіночнай камеры ведання" і ўсё ўспрымаць належным чынам. Гэта найперш.

Для мяне параза дэмакратаў на апошніх выбарах (травень 1995 г. — **Ю. З.**) — таксама вялікі боль і няшчасце, але на мяне, як песіміста, яна не зрабіла вялікага ўражання. Я не скажу, што яна мяне сакрушыла, разбіла — я да яе быў гатовы, не чакаў нейкай удачы... Гэта не першая параза. Такая ж была летась, на прэзідэнцкіх выбарах, калі Пазняка не выбралі прэзідэнтам. Але, па шчырасці сказаць, у тых абставінах, у той атмасферы, у тых палітычных, эканамічных і розных іншых умовах я адчуў душэўную палёгку ад таго, што Пазняка не выбралі...

**— ?**

— Таму што чыста па-чалавечы я не жадаў яму благога, я зычыў яму дабра... Я бачыў шчырасць гэтага чалавека, стаўку яго жыцця *на поспех беларускай справы; але* калі яго не выбралі, а выбралі Лукашэнку, то мы зразумелі, што адтэрміноўваецца нешта самае страшнае. Няцяжка сабе ўявіць, што было б, калі б яго абралі. Па-першае, ён быў бы знішчаны фізічна. Па-другое, уся яго справа таксама была б ліквідавана — самым жахлівым, крывавым чынам. Таму што нельга ў гэткай абстаноўцы выбіраць такога галоўнага цара, які абсалютна не дастасуецца да яе: ён абавязкова будзе адторгнуты, выкінуты, і не толькі ён, але і ідэі, уся ідэя Адраджэння... Мы ж бачым, які хцівы звер стаіць на заднім плане. Вот Лукашэнка — гэта якраз іх чалавек. Ён так ці інакш будзе сваю справу рабіць; ён будзе рабіць яе датуль, дакуль сваім злом не даканае грамадства, нацыю. Як даканае нацыю, як нацыя стане перад выбарам: або загінуць фізічна, або выжыць і змяніць сістэму, — тады ён будзе таксама адпрэчаны.

Час Адраджэння яшчэ не наспеў. І час Народнага фронту не наспеў. Яшчэ толькі мы недзе робім першыя спробы, яшчэ на подступах да гэтага. І дапаможа нам у гэтым, як ні дзіўна, — Лукашэнка. З яго радыкалізмам і фашыстоўскімі замашкамі. Ён падштурхне. Гэта той выпадак, калі, сапраўды, "чым горш, тым лепш". Гэта не значыць, канечне, што я за тое, каб ён паспяхова кіраваў: ён не можа паспяхова

кіраваць; але ён вымушаны кіраваць такім чынам, таму што ён не свабодны. Ён выконвае дырэктывы і тэндэнцыі пэўных органаў, найперш расейскіх. Але скончыць ён вельмі кепска... Пэўны стан эканомікі яго ўзнёс, і гэтая ж эканоміка яго нізвергне, таму што ён з ёю не зладзіць. Зрэшты, з такой эканомікай не зладзіць ніхто, я ўжо гаварыў гэта ні адзін раз. Ні Гасподзь Бог, ні анёлы не могуць упарадкаваць такую эканоміку, паколькі яна — параджэнне нячыстай сілы. Яна павінна памерці, ператварыцца ў тло, глебу, з якой народзіцца новая эканоміка, якая, я не ведаю, але яна павінна нарадзіцца. Нельга ж эканоміку ствараць указамі ці дэкрэтамі. Яна — жывы арганізм чалавечага існавання. І ён павінен марудна вырасці, як вырастаюць дзіця, кветка, расліна. Каб нармальна функцыянаваць у інтарэсах людзей, нешта павінна вырасці натуральным чынам. А на глебе атручанай сацыялістычнай эканомікі такая кветка вырасці не можа...

**— Баюся, Васіль Уладзіміравіч, што, каб пераадолець спадчыну сацыялізму, — тут чалавек, мусіць, не здольны нешта выправіць; тут, відаць, без другога прышэсця не абысціся...**



— Можа, і так. На гэты конт я цёмны чалавек. Я не ведаю, не магу нічога прадбачыць. Як не можа прадбачыць ніхто, хоць людзі заўсёды вызначалі пэўны накірунак. Аднак усе тыя "вызначальнікі" вельмі хутка банкрутавалі. Сёння сумленны чалавек можа толькі развесці рукамі, а калі нехта паказвае, куды "трэба" ісці, то гэта альбо авантурыст, каторы робіць тое ў карыслівых мэтах, альбо проста недалёкія людзі, каторым здаецца, што яны нешта ведаюць. На самай справе ўсё гэта вельмі цьмяна, таму што, папершае, чалавек сам сябе не ведае, а падругое, ён зменлівы... Здаецца, Пазаліні ці Антаніёні, нехта з іх, зняў фільм на антычную тэму, нешта з жыцця Нерона. Пасля ў рэжысёра спыталіся, што самае цяжкае: аднавіць дэкарацыі тагачаснага жыцця ці рэканструяваць псіхалогію антычнага чалавека. Ён адказаў, што самае цяжкае — аднавіць псіхалогію, таму што псіхалогія зменлівая. У мастацтве гэта ўвогуле амаль немагчыма. Элементарны прыклад, каторы прыходзіць на памяць: Сенека. Яму імператар выказаў сваё незадавальненне. Што зрабіў Сенека? Пайшоў змагацца супраць імператара? Не, ён пайшоў дамоў і выпіў цыкуту — ад таго, бачыце, што імператар яго разлюбіў...

**— Вы ўсё-такі дазваляеце сабе разважаць над такімі рэчамі, як другое прышэсце?**

— Пра гэта я нічога не думаў, я кажу, што цёмны ў гэтым сэнсе чалавек...

**— Тады застаецца палітыка: пра палітыку разважаць і гаварыць звыклей. Ужо даўно чуваць развагі, што, маўляў, галоўная бяда Беларусі — у тым, што ў яе няма агульнанацыянальнага лідэра. Вы верыце ў такі сродак вырашэння нашых грамадскіх праблем?**

— Яшчэ кажуць — у палітыцы трэба прафесіяналы. Баюся, што не прафесіяналы тут патрэбны. У многіх выпадках трэба якраз не прафесіяналы. Трэба проста чалавек з боку. Вядомы даўні выпадак: калі Форд будаваў сваю вытворчую імперыю, узнікла нейкая тэхнічная праблема, і яго спецыялісты не маглі яе вырашыць. Тады ён запрасіў інжынера, які ніколі не меў справы з аўтамабілямі, але лічыўся нядрэнным спецыялістам. І ён хутка вырашыў тую праблему. Чаму? Таму што яго вырашэнне было свабодным ад усялякіх стэрэатыпаў... Так можа быць і ў палітыцы. Трэба найперш чалавек, каторы валодаў бы здаровым сэнсам. Вось калі ўзяць, дапусцім, Масарыка, ён мне вельмі даспадобы. Мне здаецца, у нас мала вывучаюць вопыт міжваенных дзяржаў, Польшчы, Чэхаславакіі, Венгрыі, Аўстрыі... Тады, пасля Першай сусветнай вайны, у лідэры прыйшлі вельмі сімпатычныя людзі — і ў Чэхаславакіі, і ў Польшчы. Хай генерал, маршал — Пілсудскі, — але як жа ён адбудоўваў Польшчу ў тых умовах! Яны не былі "прафесіяналамі ад палітыкі", але, тым не менш, паспяхова будавалі свае нацыянальныя дзяржавы. Чэхі памятаюць народнасць, прастату Масарыка. Пры ім міністры ездзілі на працу на трамваі — не таму што не маглі пакарыстацца персанальным аўтамабілем, а таму, што гэта было непрыстойна. І небагатыя яны былі людзі. Яны служылі найперш нацыі, таму так сябе паводзілі. А нашыя каму служаць?...

**— Сёння мы кажам пра расслаенне нацыі; то ці можа быць у такіх умовах універсальнай каштоўнасцю "здаровы сэнс"?**

— "Здаровы сэнс" сёння нацыяй страчаны, і гэта прыкра...

**— Нават у палякаў, якія, па сутнасці, распачалі змаганне з камунізмам у сацыялістычным лагеры — пры канцы 70-х, — зараз няма агульнанацыянальнага лідэра. Былыя камуністы цягнуць за сабой ладную частку грамадства...**

— Таму што дыферэнцыяцыя грамадства адбывалася. У цэнтральнаеўрапейскіх дзяржавах былі, канечне, свае супярэчнасці, але раней іх нацыі былі нечым з'яднаныя больш, чым цяпер, скажам, тая ж Польшча. Вот калі туды прыйшлі камуністы, дык, натуральна, яны перш за ўсё выкарысталі ўсе сродкі, каб нацыю раскалоць на кавалкі. Таму што толькі ў такім стане яны здольныя ўтрымліваць уладу. І яны за пяцьдзесят гадоў гэта зрабілі. А да камуністаў нацыя была з'ядначаная. Нават немцы, акупаваўшы Польшчу, не змаглі (ці не схацелі, як часам кажуць) стварыць там масавую калабарацыю і ўгодлівае самакіраўніцтва. Гэта ж пра многае сведчыць. Праўда, там былі касцёл, рэлігія, што аб'ядноўвалі нацыю. А ў нас нават і рэлігія не можа аб'яднаць, таму што ва ўмовах двухканфесійнасці якое можа быць аб'яднанне? Ды яшчэ драбленне па сацыяльным стане, нацыянальнай прыналежнасці, іншае...

**— Камунізм захапіў Беларусь суцэльна...**

— Ён, камунізм, увесь час імкнуўся трымаць народ у нейкім маналітным лагеры, не зважаючы на нацыянальнасці. Было адно вялікае дзяленне на камуністаў і беспартыйных (як у Афрыцы — на белых і чорных). У той час як камуністы валодалі ўсімі правамі і магчымасцямі, беспартыйныя не валодалі і іх палавінай... Ідэалагічны таталітарызм выхоўваўся ці не з дзіцячага садка — акцябраты, піянеры, камсамольцы... Гэта былі, па сутнасці, сапраўдныя дзяржаўныя секты, з іх унутранай ідэалогіяй і дысцыплінай. Тое было ў інтарэсах дзяржавы і партыйнага кіраўніцтва...

**— Але зноў-такі, за апошнія дзесяць гадоў "галоснасці" столькі напісана пра рэпрэсіі, ГУЛАГ, што дзіву даешся, як грамадства — "самае чытэльнае" — не баіцца паўтору таго, што было пры савецкай уладзе — вынікі апошніх выбараў сведчаць пра тое... Чаму ж людзі нічога не баяцца?**

— Яны нічога не баяцца, таму што грамадства па-ранейшаму застаецца неінфармаваным. Як вядома, на пачатку перабудовы гучала шмат патрабаванняў (з боку расейскіх дэмакратаў), каб кампартыя пакаялася ў злачынствах, адмовілася ад свайго злачыннага мінулага. Гэтага не было зроблена. Усе хрушчоўскія выкрываннi сталінізму былі частковымі, боператічваліся толькі імёны рэпрэсаваных маршалаў і кіраўнікоў, — а пра народ — маўчалі. Таму ў масавай свядомасці рэпрэсіі так і засталіся рэпрэсіямі кіраўніцтва супраць кіраўніцтва, а не ўлады супраць народа....

Колькі разоў Алесь Адамовіч заклікаў "дадумваць да канца"! А ў нас гэта ніяк не дадумана. Канцы і пачаткі нашай бяды дзесьці ў Кастрычніцкай рэвалюцыі, а можа, і яшчэ раней... І прычына нашай галоты не ў "разбурэнні сувязей паміж брацкімі рэспублікамі", а ў тым, што ў 1917 годзе адбылася жахлівая рэвалюцыя і Расея, разам з нацыянальнымі ўскрайкамі, улучна з Беларуссю, пайшла не ў тым кірунку. Мы пайшлі абсалютна ў тупіковую галіну і ўпёрліся ўрэшце ў тупік. І цяпер як вярнуцца назад? Гістарычны час гэта выключае. Як зноў збочыць у агульнае русла зямной цывілізацыі — не ведае ніхто... Вот таму гэта ўсё мы і перажываем. І нацыя перажыць. У гэтым сэнсе самае жахлівае — разбурэнне найбольш агульнага, боскага прынцыпу прыватнай уласнасці. З яго ўсё пачынаецца. Калі прыватную уласнасць панішчылі, панішчылася ўсё... Бо чалавек ад жывёлы адрозніваецца тым, што здольны нечым валодаць і распараджацца. Нават леў, сабака "мецяць" сваю тэрыторыю, свае ўладанні... Прырода толькі тады дасць нейкі плён, калі яна будзе камусьці належаць. А ў нас праца людзей і ўласнасць не толькі абяздушаны, але і незаконным чынам прысвоены, можна сказаць, антылюдзьмі, нечалавекамі. Пры сацыялізме ўласнасцю народа распараджалася Палітбюро, купка людзей. З гэтага пачаліся ўсе няшчасці... І пагэтаму, каб вярнуцца ў ранейшае становішча, уласнасць трэба раздаць канкрэтным людзям. Толькі як гэта зрабіць па справядлівасці? Ёсць як у матэматыцы задачы, якія не маюць рашэння. Баюся, што такая ж праблема зараз у нас з уласнасцю: яна не мае свайго справядлівага вырашэння — вот у чым нявыкрутка...

**— Для гэтага павінны распрацоўвацца рэформы...**

— Рэформы павінны быць... Каму будзе належаць уласнасць — заходнім банкам ці расейскім канцэрнам — у гэтым БНФ і Лукашэнка разыходзяцца. БНФ лічыць, што лепш, калі гэта будзе належаць цывілізаваным заходнім банкам, чым ненажэрным усходнім канцэрнам. Але, па сутнасці, і тое і другое кепска. Лепш, калі яно будзе належыць нам. Але лічыцца, што апошняе — "нацыяналізм"... Нацыяналізм канечне, пастараліся скампраметаваць, найперш нарабіў жаху нямецкі нацызм... Але правільна гаворыць Ф. Хукаяма, гэты апошні "адвакат нацыяналізму", як яго называюць на Захадзе: само паняцце нацыяналізму заключае ў сабе вельмі шмат, ад самага высакароднага ад самага ганебнага. І трэба канкрэтна меркаваць пра кожны канкрэтны нацыяналізм. Хукаяма кажа пра нацыяналізм рэспублік былога СССР як абавязковую перадумову крушэння таталітарызму. Г. зн. што толькі нацыяналізм можа эфектыўна змагацца з расейскім камуністычным рэжымам. Далей ён піша, што нацыяналізм і заходні лібералізм могуць выдатна ўжывацца, дапаўняючы і ажыўляючы адзін аднаго. А ў нашай масавай свядомасці нацыяналізм — гэта страшна, ім палохаюць. Прычым не толькі камуністы, але і некаторыя дэмакраты, ім мроіцца Югаславія, Каўказ, Сярэдняя Азія, і яны гэта адпрэчваюць. У тым ліку і расейскія дэмакраты. Вот чаму не могуць зразумець украінцаў...

**— А Украіна тым часам будуе сваю дзяржаўнасць і нават Амерыка ёй у тым дапамагае...**

— Вот іменна. І Беларусь жа магла б здабыць такую падтрымку, тым больш што стратэгічна Беларусь, можа быць, важней за Украіну, і насельніцтва ў нас меней, таму падтрымаць нас было б лягчэй... Аднак Беларусь робіць такі вось выбар — рукамі яе палітычнага кіраўніцтва. Шчаслівейшыя прыбалты, яны выйшлі з-пад ног Расеі, засталіся збоку, пры моры. А мы — на парозе Расеі, і пагэтаму шчасця нам тут не будзе, як не стала яго калісь Вялікаму княству Літоўскаму: усё па той жа прычыне — што апынулася "паміж"... "Літва" і адціснулася ўбок, да Балтыйскага мора, і там захавалася. А ў нас тут шчасця не будзе.

*Чэрвень 1995 г.*

**КАЛЯДНАЕ выданьне газэты заплянавана на 12 стр... Пастарайцеся прыслаць ахвяру на сьвяточны № газэты! Дзякуем!!!**

# ЦЯГНІК, ЯКІ ПАЙШОЎ ЛіМ. ПАДМАН

"Савецкая карта" будзе разыгрывацца палітыканамі на постсавецкай прасторы яшчэ не адзін год. Бадай толькі ў краінах Балтыі гэта карта бітая канчаткова. Балтыя рашуча парвала з "савецкім перыядам" сваёй гісторыі, пазначыўшы яго жорсткім словам "акупацыя". Адпаведнае і стаўленне да ўсяго, што ўвасабляла акупацыйны рэжым: камуністычнай ідэалогіі, сацыялістычнай эканомікі, "дружбы народаў" на глебе любові да "старэйшага брата".... Магчыма, ёсць у справе балтыйскага адраджэння пэўныя перахлёсты (міжнародныя арганізацыі звярталі, прынамсі, увагу на элементы дыскрымінацыі ў адносінах да некарэннага насельніцтва гэтых краін), але Балтыя прымусіла Маскву паважаць сябе. У Расіі з Балтыяй больш цывілізаваныя стасункі, чым з краінамі СНД і, у прыватнасці, з Беларуссю. Каб цябе паважалі іншыя, трэба мець найперш самапавагу. Савецкая рэдакцыя беларускай гісторыі не пакідала беларусам ніякіх шанцаў "людзьмі звацца". Як адзначаў у гэтым сэнсе аўтар вядомай паэмы: "Нас без Расіі проста нет". Выхаваныя такой "гісторыяй", людзі спакойна ўспрымаюць здачу на карысць Расіі беларускага суверэнітэту. Гэта ў асноўным пенсіянеры, ветэраны. Іншая справа — моладзь. Старыя трымаюцца за ўспаміны — моладзі патрэбна перспектыва. Старым шкада вялікай краіны ад Таліна да Уладзівастока — маладыя беларусы ўсведамляюць, што, дзякуючы дэмантажу СССР, ім не давядзецца бяссэнсава гінуць дзе-небудзь у Чачні, Асеціі, альбо ў іншым "афгане" на тэрыторыі РФ. Моладзь на ўласным эканамічным досведзе адчувае нестыкоўкі эканамічных інтарэсаў Беларусі і Расіі, між тым, як старыя разважаюць пра нейкае там "славянскае адзінства".

Зрэшты, так званы канфлікт пакаленняў — з'ява нармальная, дыялектычна абумоўленая. Мудрыя людзі ставяцца да гэтага спакойна. "И наши внуки в добрый час из жизни вытеснят и нас" — канстатаваў без усялякай крыўды Аляксандр Сяргеевіч Пушкін.

Аднак канфлікту пакаленняў у Беларусі жорсткасць надае тое, што ён правакуецца, штучна абвастраецца ўладай. На выбарах, на "рэферэндуме" сп. Лукашэнка паставіў на ветэранаў — і выйграў. Аднак жыць — маладым, а іх якраз сп. прэзідэнт пазбаўляе жыццёвай перспектывы. Якая ж можа быць перспектыва пры адсутнасці дэмакратыі, цывілізаванага рынку і павагі да нацыянальных каштоўнасцяў?

Вось і глеба для канфлікту пакаленняў. Настальгія старых па савецкім часе абарочваецца праблемамі для моладзі. Цяпер слова "ветэраны" толькі ў вуснах абслугоўваючых рэжым журналістаў гучыць з замілаваннем і падкрэсленай павагай, у побытавай гаворцы звычайных людзей "ветэран" — гэта тое ж самае, што "выкапень", "рэтраград", каб не сказаць горш... Дзякуй за гэта спадару Лукашэнку?

Для сённяшняй моладзі вайна, якую называюць Вялікай Айчыннай, значыць ужо меней, чым для людзей старэйшага і сярэдняга ўзросту, якія сутыкнуліся з той бядой непасрэдна, альбо праз лёс сваіх бацькоў. І ўсё ж, Вялікая Перамога — гэта, можа, адзінае святое, што засталося ў свядомасці ад Савецкага Саюза. А зараз уявіце, што будзе, калі 3 ліпеня — Дзень Вызвалення — будзе супрацьпастаўлены другому ліпеньскаму святу — Дню Незалежнасці? Прыклад маем: здаецца, не трэба ўдакладняць, як ставіцца моладзь да "новаБССРаўскага" сцяга і герба, якія сп. Лукашэнка супрацьпаставіў нацыянальным сімвалам.... Тое ж будзе і са святам 3 ліпеня. А шкада, бо гэта было прыстойнае свята.

Беларускі адпаведнік расійскага "насильно мил не будешь" — "даганяючы, не пацалуешся". А. Лукашэнка, сам чалавек адносна малады для палітычнага дзеяча, мог стаць лідэрам моладзі, але цягнік любові пайшоў, і прэзідэнт цяпер можа "пацалаваць" толькі рэйкі...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Прыпамінаю падзеі двухгадовай даўнасці. За кафедрай у Авальнай зале стаіць толькі што абраны прэзідэнт і, паклаўшы руку на тэкст яшчэ зусім маладой Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, клянецца верна і самааддана служыць народу і краіне, стаяць на варце яе незалежнасці і законнасці. Прайшоў час, і стала відавочна, што для беларусаў у іх нацыянальнай дзяржаве прэзідэнт амаль нічога не зрабіў. Гаворыць ён адно, а робіць іншае. Прыпомнім хоць бы мінулы рэферэндум. Стрыжнявым пытаннем на ім была "інтэграцыя". Слова гэта не беларускае, і яно патрабавала сэнсавага тлумачэння. І прэзідэнт такое тлумачэнне даў — цеснае эканамічнае супрацоўніцтва з Расіяй. А я сабе падумаў: тут хаваецца маскіруемае ашуканства. Бо ні адна ж краіна свету не праводзіла рэферэндуму па пытаннях эканамічных сувязей з іншымі краінамі. Зараз выявілася, што нашага прэзідэнта цікавілі не столькі ўзаемавыгадныя эканамічныя стасункі з Расіяй, колькі пачатак аднаўлення спарахнелай на корані савецкай імперыі. Ён так яе шкадуе. Памятаеце яго плач: "Такую страну развалили..." Або возьмем пытанне наконт мовы. Прэзідэнт асабіста яе не проста не любіць, а ненавідзіць. Рыхтуючы глебу для яе ўдушэння, ён у Гомелі абазваў мову недзеяздольнай з-за яе беднасці. А каб пад гільяціну падасланы дыванок, быў праведзены "круглы стол" з удзелам хоць і не народных, але "вялікіх" беларускіх літаратараў, навукоўцаў і генералаў. Мяне вельмі абрадавала і я да сённяшняга дня ўдзячны прафесару Жураўскаму, літаратарам Скобелеву і Спрынчану за зробленае за тым сталом калектыўнае навуковае адкрыццё: пры ўвядзенні двухмоўя руская мова будзе стымуляваць развіццё беларускай, будзе "падпітваць яе". Што ж, паважаныя паэты і шматпаважаны праф. Жураўскі: ну і "падпітала ж". Можа, вы таго не бачыце, а ўсім дужа добра відаць: ад гэтай "падпіткі" пасля "судьбоносного" рэферэндуму атрымаўся перанасычаны раствор, у якім беларускае вуснае і друкаванае слова проста захлынаецца і канае. Яшчэ раз дзякуй вам, шаноўныя творцы! Да гэтага скону і вы прыклалі сваю руку.

Зараз наша гаспадарка ў каматозным стане. Калі гэта не так, то хто з вышэйшых кіраўнікоў краіны аспрэчыў даклад старшыні Камісіі Шлындзікава? Ніхто! Значыць, давялі, "запусцілі".

Пры такім становішчы эканомікі распачалася кампанія падрыхтоўкі да новага рэферэндуму. Для чаго ён? Каб памагчы рабочым працаваць поўны рабочы дзень? Каб не было нерэалізаванай прадукцыі на прадпрыемствах? Каб прафесар атрымліваў зарплату вышэйшую, чым сяржант ці прапаршчык? Ды не! Пытанні, што выносяцца на ўсенароднае адабрэнне, не варты таго, каб на іх вырашэнне траціць такія сродкі. Сярод іх вартае ўвагі адно пытанне — аб Канстытуцыі. Толькі вось нешта не чуваць ад яе ненавіснікаў: а чым жа вам не дагаджае наш Асноўны Закон? Што, Канстытуцыя разбурае толькі што народжаную дэмакратыю? Ці стрымлівае шлях да рынку? Не тлумачаць! І атрымліваецца, як з той "Пагоняй" ці сцягам: а мне не падабаецца! Тут ні тысячагадовая гісторыя, ні неаспрэчныя навуковыя доказы ў разлік не бяруцца. Мне не падабаецца! Я — тварэц гісторыі, я — карыфей навукі, я — бацька Канстытуцыі.

У пытанні з Канстытуцыяй таксама бачу скрытую міну. Арганізатары і прапагандысты цяперашняга рэферэндуму не раскрываюць сваіх намераў. Зноў падман, хлусня. Не ў рэферэндумы б гуляць, а кіраваць краінай, ратаваць гаспадарку і народ ды свята выконваць цяперашнюю Канстытуцыю дзяржавы. І з ёй мы зможам збудаваць цывілізаванае і дэмакратычнае грамадства ды суверэнную прававую дзяржаву, толькі трэба працаваць на сваю годнасць, а не выстаўляць сябе на сусветнае пасмешышча і сорам.

**В. СКАРАХОД**

*г. Мінск*

# Песня пра Беларусніка.

Па-над шостай часткай сушы хтосьці зноў хаўрус збірае. Паміж Мінскам і Масквою разадраны Беларуснік, быццам чорная маланка.

То ён Гітлера ўхваліць, то ён Сталіна згадае, ён крычыць, а людзі чуюць, быццам Ленін на трыбуне.

У гэтым крыку — процьма дуры! Аніводнай слушнай думкі, але так пераканаўча, што і сэнсу непатрэбна.

Людцы стогнуць перад дурнем, — стогнуць, але разумеюць, што калі дурны, то смешна не смяцца над вусатым.

І сусед таксама стогне — ім, суседзям, дзіўна бачыць, што краіну можна бэсціць, а народ усё даруе.

Пан на захадзе спяшае, каб хутчэй схавацца ў НАТА ... Толькі нашая пачвара смела гойсае па рэбрах у цярплівага народа.

Усё ніжэй сівыя хмары апускаюцца над светам, разумнейшыя народы ўцякаюць ад Расеі.

"Град" грукоча. На руінах церпяць людзі, не здаюцца. І таджык ужо шкадуе, што дазволіў "міратворцам" бараніць "мяжу Расеі", за сваю баіцца скуру, бо ён бачыць, як з Чачнёю абыходзяцца вайскоўцы.

Беларуснік усіх гвалтуе. Быццам чорная маланка ён дубінкамі "спецназа" апазіцыю збівае.

Вось ён грукае ў вароты да Крамля... І патрыярха ўзасос расцалаваў ён. "Можа, нешта зноў наблытаў?!"

У гневе "брата" — хітры злыдзень! — ён даўно заўважыў стому, і ўпэўны, што хутка ўладкуецца на троне.

Недзе вые... "Град" грукоча... сінім полымем палаюць незалежныя газеты. І цячэ кісель салодкі з паўзадушаных экранаў, быццам слізкія змяюкі распаўзаюцца па хатах аскаплёныя навіны.

— Нешта! Хутка будзе нешта! — гэта смелы Беларуснік, як у багну, між маланак, цягне свой народ у няволю; ды крычыць прарок наш бедны: — Хай мацнее будзе нешта!

Над прыгожаю краінай, як крумкач крылом, вусамі размахаўся нехта лысы. Быццам у небе ён лунае. Ён глядзіць буркатым вокам, дзе там бел-чырвона-белы сцяг плыве над людам вольна, і АМОНу насылае, бо занудзіліся хлопцы, папрацуюць хай дубцамі.

Сам сабе ён спадабаўся, "шчэ калі ў першым класе па пісьме займеў "трояк" ён рускай мове навучыўся. А калі каня забралі, са двара суседа хлопцы, ён яшчэ тады бажыўся: калі вырасце — пакажа. А цяпер — усе глядзіце!

Гэта "чэсны" Беларуснік! Як залезе ў тэлевізар, дык вярзе лухту такую, што ад жаху вушы вянуць. Як няўдзячны шчэнь шалёны, ён ашчэрыўся на мову, і кусае ён за цыцку маці, што яго люляла.

Калі б ведала матуля, што пачвару нарадзіла і што стане той сыночак бацькам саманазывацца, дык яшчэ б у першым класе с... да крыві надрала, каб не лез куды не трэба з той дурнотай і хаўрусам.

І казах туды не лезе, галаву не падстаўляе пад прамень крамлёўскай зоркі: галаву сваю шкадуе.

Нават кыргыз не ўяўляе, як пражыць з Масквой у хаўрусе.

Толькі наш цяльпук упёрся, як баран у вароты б"ецца. Як парсюк у плот залезе і вішчыць ён аб пагрозе. Нейкім НАТАм нас пужае, ажно сам у тое верыць.

А калі ён у гуморы, то народу абяцае, над народам тым смяецца. Бо народ забіты, цёмны, любіць скварку "на халяву"; а да скваркі і гарэлку абяцае Беларуснік.

Можа, лётае ў марах над Савецкай Беларуссю? Ён забыў, што Якубовіч там даўным-даўно рэдактар.

Але чуе Беларуснік, што народ ужо смяецца, пазбаўляецца ад жаху перад чорнымі вусамі.

Нешта! Хутка будзе нешта!

Закіпіць народу мора, як паводка на Палессі, і тады ты хоць у вырай адлятай, бо стане цесна, і ахова не ўратуе.

Хай хутчэй надыдзе Нешта!

**Вадзянік Няміжскі-Горкі**
**Красавік, 1996**

## БЕЛАРУСЫ СЬВЕТУ ЗЬБЯРУЦЦА Ў ЛІПЕНІ 1997 г.

Прадстаунікі беларускіх дыяспар з Расіі, Літвы, Латвіі, Украіны, Малдовы, Польшчы, ЗША і Франціі сабраліся 5 кастрычніка ў сталічным Доме літаратара на Другую міжнародную навукова-практычную канферэнцыю "Культура і адукацыя беларускага замежжа". На працягу двух дзён абмеркаванне ішло на пленарных пасяджэннях і падчас работы секцый "Беларуская культура далёкага замежжа" і "Беларуская культура блізкага замежжа".

Арганізатар канферэнцыі Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" прымеркавала да гэтай сустрэчы і пасяджэнне Вялікай рады ЗБС. На ёй кіраўнікі беларускіх суполак прынялі рашэнне аб правядзенні Другога з'езда беларусаў свету. Ен адбудзецца 26 - 27 ліпеня 1997 года ў Мінску.

Асноўнай тэмай для абмеркавання дэлегатаў стане "Праблема захавання беларускай прысутнасці ў свеце".

**БЕЛТА.**

**У сённяшняй палітычнай сытуацыі гэта вельмі простая, але таксама і не разважная пастанова..**

**Добра было-б, каб беларускае замежжа выказалася ў гэтай так важнай справе. Пішыце!..**

# ХРОНІКА ПІКІРУЮЧАЙ БЕЛАРУСІ

ЛіМ.

Процістаянне розных галін улады, процістаянне ў грамадстве, падобна, набывае ў краіне хранічную форму. Асабліва адметным у гэтым сэнсе быў апошні тыдзень. Згадаем хроніку падзей. Чацвер, 10 кастрычніка. У Авальнай зале Вярхоўнага Савета з'яўляецца прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка і выступае перад дэпутатамі з прамовай, якая загадзя была разрэкламавана прапрэзідэнцкімі сродкамі масавай інфармацыі як сведчанне гатоўнасці кіраўніка краіны паразумецца з парламентарыямі, пайсці з імі на канструктыўны дыялог. У аснову "паразумення" Аляксандр Рыгоравіч кладзе вядомы зварот да яго 110 дэпутатаў Вярхоўнага Савета, у якім яны просяць кіраўніка дзяржавы "змякчыць", найбольш недарэчныя артыкулы новай Канстытуцыі — галоўнага пытання маючага адбыцца рэферэндуму, абяцаючы ўзамен падтрымаць прэзідэнта ва ўсіх іншых, звязаных з плебісцытам, пытаннях. (Цікавая дэталь: адказваючы пасля выступлення на пытанне аднаго з дэпутатаў, хто з'яўляецца аўтарам, ці аўтарамі новай Канстытуцыі, спадар Лукашэнка сціпла вымавіў: "Ён стаіць перад вамі").

Пятніца, 11 кастрычніка. Прэзідэнт зноў з'яўляецца ў Авальнай зале Вярхоўнага Савета, але пасля рэзкай крытыкі яганай Канстытуцыі дэпутатамі А. Лябедзькам, А. Бухвостаўым, С. Багданкевічам, А. Клімавым, пасля выступлення старшыні Канстытуцыйнага суда В. Ціхіні дэманстратыўна пакідае парламент, абвясціўшы, што "бярэ назад" усе свае ўступкі Вярхоўнаму Савету і цяпер адно будзе шукаць падтрымкі ў народа.

Са згаданых выступленняў варта адзначыць дэпутацкі запыт А. Лябедзькі да старшыні КДБ рэспублікі з нагоды выступлення па Беларускім тэлебачанні міністра па справах СНД Расійскай Федэрацыі небезвядомага А. Тулеева, які, ва ўсім падтрымаўшы Аляксандра Лукашэнку ў яганай "халоднай вайне" з вышэйшым органам заканадаўчай улады Беларусі, паведаміў сенсацыйную навіну — на жыццё беларускага прэзідэнта былі ўжо зроблены чатыры замахі. Ці меў ён на ўвазе і стрэл па машыне, у якой знаходзіўся Аляксандр Рыгоравіч падчас прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі (стрэл, паходжанне якога так і засталося загадкай), госць не паясніў. Але і сказанага было дастаткова, каб прыцягнуць да сябе пільную ўвагу. Ніхто ж пра нейкія замахі на жыццё прэзідэнта Беларусі да гэтага і краем вуха не чуў. Хоць і зразумела, што спадар Тулееў заяву гэтую зрабіў з падачы тых, каму выгадна мусіраваць падобныя чуткі.

З напружанай увагай выслухала зала выступленне старшыні Канстытуцыйнага суда краіны В. Ціхіні, які расцаніў апошняе выступленне ў парламенце прэзідэнта як ультыматум у прыгожай упакоўцы і каменя на камені не пакінуў ад прэзідэнцкай канстытуцыі, падкрэсліўшы, што яна мае "гнілую сарцавіну" і таму яе немагчыма ні паляпшаць, ні ўдасканальваць. І калі на рэферэндуме такая канстытуцыя будзе прынята, сусвет вымушаны будзе зафіксаваць з'яўленне ў цэнтры Еўропы таталітарнага рэжыму з усімі яго атрыбутамі — кастрыраваным парламентам і кішэнным Канстытуцыйным судом.

Тым часам у полі зроку парламентарыяў з'яўляецца яшчэ адна дэпутацкая ініцыятыва, так званая заява 23-х, якая ставіць сваёй мэтай падтрымаць рашэнне прэзідэнта правесці рэферэндум 7 лістапада і адклікаць парламенцкую рэдакцыю канстытуцыі з новай датай правядзення рэферэндуму (разам з давыбарамі дэпутатаў — 24 лістапада).

Прапанова 23-х галасуецца праз кабіны. За яе — 84 галасы, супраць — 88. Вярхоўны Савет такім чынам яшчэ раз пацвярджае дату правядзення ўсенароднага рэферэндуму — 24 лістапада. На суд грамадзян будуць вынесены два праекты канстытуцыі — прэзідэнцкі і парламенцкі...

Перавядзем дыханне і паспрабуем разабрацца ва ўсіх гэтых калізіях. Спачатку аб выказаным прэзідэнтам намеры нібыта адступіцца ад некаторых палажэнняў сваёй канстытуцыі. Можна па-рознаму тлумачыць "побудительные мотивы" гэтага кроку. Старшыня парламенцкай фракцыі "Грамадзянская дзея" С. Багданкевіч схільны бачыць у гэтым рэакцыю сп. Лукашэнкі на прынцыповую, рашучую пазіцыю, занятую апошнім часам Вярхоўным Саветам. Але, ведаючы характар Аляксандра Рыгоравіча, для якога экстрэмальная сітуацыя — родная стыхія і для якога правілам стала сустракаць у штыкі амаль усё, што сыходзіць ад парламента, тлумачэнне сп. Багданкевіча наўрад ці мае трывалую падставу.

Хутчэй за ўсё гэтае жаданне прэзідэнта і цнатлівасць захаваць і палітычны капітал прыдбаць нарадзілася пасля атрымання ім паслання ад прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Б. Ельцына, у якім той раіў свайму беларускаму калегу не абвастраць палітычнага супрацьстаяння ў краіне, сваіх адносін з парламентам.

Ну, а што Вярхоўны Савет? І тут не ўсё так адназначна. Час ад часу, як бурбалкі на балоце, у парламенце ўзнікаюць так званыя платформы дэпутатаў: то 20-ці, то 110-ці, то 23-х. Ініцыруе іх, як правіла, прэзідэнцкае лобі ў парламенце — фракцыя "Згода", якую курыруе намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Ю. Малумаў.

Што далей? На маю думку, не выключана спроба прэзідэнта пры дапамозе часткі дэпутатаў паралізаваць Вярхоўны Савет. Зрабіць гэта можна, да прыкладу, шляхам байкоту той жа "Згодай" (больш за 50 дэпутатаў) працы парламента. Да такой высновы падштурхоўвае і раптоўная заява Ю. Малумава аб сваёй адстаўцы, заява, на абмеркаванне якой ВС аддаў амаль усё ранішняе пасяджэнне 15 кастрычніка. І хоць Юры Георгіевіч запэўніваў прысутных, што пра свой намер пайсці ў адстаўку ён паведаміў прэзідэнту пасля таго, як зрабіў гэта ў парламенце, верыцца ў гэта цяжка. Хутчэй за ўсё згаданая акцыя спланавана ў прэзідэнцкім акружэнні.

Як вядома, пакідаючы Авальную залу, сп. Лукашэнка сказаў, што цяпер звернецца да ўдзельнікаў ініцыяванага ім "усебеларускага сходу", які і зацвердзіць прапанаваную прэзідэнтам дату правядзення рэферэндуму — 7 лістапада. Магчыма, і зацвердзіць. Але як тады быць з папярэджаннямі старшыні Цэнтрвыбаркама краіны В. Ганчара і старшыні Канстытуцыйнага суда В. Ціхіні, што падобнае рашэнне сходу будзе нелегітымным, бо паводле існуючай Канстытуцыі дату правядзення выбараў і рэферэндумаў прызначае толькі Вярхоўны Савет. Не будуць прызнаны законнымі, папярэдзілі яны, і вынікі рэферэндуму, калі ён адбудзецца менавіта 7 лістапада.

Далей — болей. Напярэдадні згаданага "Усебеларускага сходу", 18 кастрычніка, збярэцца Кангрэс дэмакратычных сіл краіны, які пройдзе пад дэвізам "У абарону дэмакратыі, супраць дыктатуры". На наступны дзень, пад такім жа дэвізам, адбудзецца мітынг, у якім прымуць удзел, па разліках яго арганізатараў, — 40-50 тысяч чалавек.

Беларусь пікіруе... Барані Божа, каб не ў крывавую бездань.

**Міхась ЗАМСКІ**



Адзін стары, другі ў веку, —
Абое рабое...
Абяцаюць чалавеку
Шчасьце залатое...
А амэрыканскі беларус
Матае ўсё сабе на вус...




Сколькі, сколькі?! Вунь за вуглом людзі дзешавей прадаюцца!..

— Пераехаў вашага ката! Ці магу для вас нешта зрабіць?
— А мышы ўмееш лавіць?

## *Нам пішуць... Нас Пытаюць...*

Паважаны Сп. Прускі!

Шчыра дзякую Вам за "Беларускі Дайджэст". Дай-жа Вам мілы Божа здароўя і сілы далей прадаўжаць сваю працу на карысьць нашага Беларускага народу! Залучаю ахвяру на выдавецкі фонд газэты.

З глыбокаю пашанаю, Ю. Н.

*Дзякуем за добрыя словы і ахвяру. Усяго найлепшага жадаем Вам у Вашым жыцьці.*

Паважаны Рэдактар!

Учора атрымаў "Беларускі Дайджэст" за верасень. Ужо думаў, што газэта мяне абмінула. Перасылаю ахвяру на выдавецкі фонд.

Як падае беластоцкая «Ніва», ў месьце Кляшчэлі (Польшча) была адчынена новая школа, якую польская прэса назвала беларускай. Аднак школа гэтая тыпічна польская, дзе некалькі дзесяткаў вучняў вывучаюць беларускую мову па 2 гадзіны ў тыдзень. А ў Горадні (Беларусь) навука адбываецца на польскай мове ў падобнай школе... Гэтыя школы адчынялі прэм'ер-міністры В. Цімашэвіч і М. Чыгір. (Дарэчы, абодва беларускага паходжаньня, хоць адзін з іх гаворыць толькі папольску, а другі парускy...) Выглядае, што палянізацыя беларусаў ідзе поўнай парай...

З пашанай, А. Т.

*Дзякуем за ліст і ахвяру на газэту.*

*Пры адкрыцьці новае школы ў Кляшчэлях, войт гэтае гміны выправіў памылку польскае прэсы сказаўшы, што школа ў Кляшчэлях польская... Гэтым ён падлажыў сьвіньню польскім уладам, бо гродзенцы цяпер могуць адкрыта сказаць, што іх школа таксама калі не беларуская, дык прынамсі руская... А што русіфікацыя і палянізацыя набіраюць сілы, сумнявацца ня прыходзіцца, але цяпер ужо і беларусы ў шапку ня сьпяць....*

Дарагі Мікола!

Дзякую за газэту, якая кожны раз стварае цяжкае перажываньне і глыбокі боль на сэрцы чытаючы пра трагэдыю і бязвыхаднасьць нашае дарагое бацькаўшчыны Беларусі і яе шматпакутнага народу..

Спадзяюся і малю Бога, каб нейкае сэнсоўнае выйсьце было знойдзена ў хуткай будучыні.

Далучаю маю ахвяру на выдавецкі фонд і жадаю Табе посьпеху і здароўя.

Бывай здароў, Твой К. В.

*Тое што робіць тов. Лукашэнка і яго каманда на Беларусі — трагэдыя. Гэтыя людзі робяць усё, каб канчаткова зьнішчыць незалежнасьць Беларусі... але гэта ім не ўдасца, бо праўда, прышлаесьць і лепшыя часы на баку беларускіх патрыётаў... Дзякую за ахвяру на выдавецкі фонд і жадаю Табе ўсяго найлепшага.*

Вельміпаважаны Сп. Прускі!

Шчыра дзякуем Вам за беларускую газэту "Б.Д.", які мы любім чытаць. Далучаем ахвяру на падтрыманьне выдавецкага фонду.

З пашанаю, Я. А.

*За ўсё шчыра дзякуем. Жадаем здароўя і шчасьця.*

Шаноўны Спадар Прускі!

Хачу Вам сказаць вялікі дзякуй за "Беларускі Дайджэст". Перасылаю ахвяру на выдавецкі фонд газэты і прашу надалей высылаць мне газэту на гэты самы адрас.

Л. С.

*Газэту, зразумела, высылаць будзем. Дзякуем за ахвяру. Прысылайце адрасы Вашых знаёмых...*

Шаноўнае Спадарства Вера і Мікола Прускія!

Шчыра Вам дзякую за прысыланую газэту «Беларускі Дайджэст». Зьмест газэты вельмі цікавы, таму чытаю яе ад першай старонкі да апошняй...

Ня ведаю якім спосабам ды калі буду магчы Вам адудзячыцца. Высылаць дапамогу на фонд газэты апошнім часам ня маю сродкаў. Утрымліваюся з невялічкай пэнсіі...

Усе атрыманыя экзэмпляры газэты высылаю на Бацькаўшчыну. Прашу адрасантаў, каб прачыталі ды перадалі другому. Яшчэ раз шчыра дзякую за газэту і жадаю Вам моцнага здароўя ды плённай працы на карысьць нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны, якая апошнім часам апынулася ў вялікім палітычным крызысе. Глыбока веру, што беларускі народ зможа абараніць свой незалежны быт ды выжане проч ворагаў сваёй краіны. Жыве Беларусь!

З пашанай, Ю. П. (Беласточчына)

*Дзякуем за ліст. Калісь пры наведваньні Беласточчыны я зайду да Вас і тады Вы пачастуеце мяне гусарскаю чаркай ды свае работы закускаю. Добра?..*

## ПРА БЕЛАРУСКАЕ СТУДЭНЦТВА НА ЧУЖЫНЕ

# РАСКАЗВАЮЦЬ ГАДАВАНЦЫ ЛЮВЭНА

Вельмі цікавая кніга выйшла ў Нью-Йорку. Аўтар яе — Барыс Рагуля. А называецца яна "Беларускае студэнцтва на чужыне". Дарэчы, у Беларусі, на жаль, яшчэ зусім не даследаваны студэнцкі беларускі рух. А вось на эміграцыі — першая ластаўка ўжо з'явілася: кніга Барыса Рагулі. У прадмове аўтар піша, што Янка Запруднік "параіў напісаць успаміны пра Лювэн, каб засведчыць праўду аб важным этапе ў гісторыі беларускага студэнцтва на чужыне".

Шчыра скажу, што кніжка ўспамінаў атрымалася цікавай. Чаму ўспамінаў? Ды таму, што пра беларускія студэнцкія згуртаванні з радасцю ўспамінаюць А.Арэшка, Р.Жук-Грышкевіч, Я.Жучка, А.Занковіч, Я.Запруднік, Зора і Вітаўт Кіпелі, Л.Клыбік, М.Латушкін, У.Набагез, М.Наўмовіч, В.Рамук, Я.Сажыч, З.Смаршчок-Жалязоўская, Івонка і Янка Сурвілы, В.Сянькевіч, Л.Трусевіч, П.Урбан і М.Швядзюк. А пачынаўся студэнцкі рух на эміграцыі ў лістападзе 1945 года ў Манбургу. Далей, як піша аўтар кнігі, "беларускія студэнцкія арганізацыі ў другой палове 40-х гадоў у Заходняй Нямеччыне паўставалі амаль спантанна: усюды, дзе апынуліся нашыя студэнты, засноўваліся гурткі-арганізацыі. Гэтак пры Рэгенсбургскім Унівэрсітэце Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне паўстала ў верасьні 1947 году. У верасьні таго ж 1947 году было заснаванае Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне ў горадзе Карлсруэ. Восеньню 1947 году паўстала таксама Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне пры унівэрсітэце Фрайбургу..."

Аўтар кнігі — таксама былы студэнт, ды не проста студэнт, а старшыня Беларускага студэнцкага згуртавання ў Лювэне. Ён нарадзіўся ў Турцы. Вучыўся ў беларускай і польскай гімназіях, а таксама на медыцынскім факультэце Віленскага універсітэта імя С.Баторыя. Пасля вайны з сям'ёй жыве ў Канадзе. З'яўляецца актыўным сябрам Згуртавання беларусаў Канады, намеснік старшыні рады БНР. Кніга "Беларускае студэнцтва на чужыне" — *першая літаратурная спроба*. Яна вельмі ўдалая і неабходная. Аўтар Барыс Рагуля імкнуўся, каб кніга ўспамінаў была праўдзівай і без памылак. Гэта яму ўдалося, але дзякуючы шчырым успамінам вышэйназваных сяброў.

Каштоўнасць кнігі не толькі ў тым, што да чытачоў данесены арыгінальныя ўспаміны, але і ў тым, што адзін з раздзелаў кнігі мае назву "Старонкі жыцьця". Гэты раздзел створаны паводле архіўных матэрыялаў і лістоў, прысланых аўтару кнігі былымі студэнтамі на чужыне, і адрэдагаваны Лявонам Юрэвічам. У ім змешчаны біяграфічныя звесткі пра аўтараў, якія згадваюць пра студэнцкі рух.

Ёсць у кнізе Барыса Рагулі і рэдкія, невядомыя раней фотаздымкі. На адным з іх Дом беларускіх студэнтаў у Лювэне, на другім — маладыя Зора і Вітаўт Кіпелі, на трэцім — айцец Роберт і Барыс Рагуля ў Рыме ў 1950 годзе, на чацвёртым — трэці агульны з'езд ЦБСА ў кастрычніку 1949 года ў Бельгіі і іншыя.

Кніга "Беларускае студэнцтва на чужыне" Барыса Рагулі — своеасаблівая энцыклапедыя маладзёжнага руху на эміграцыі, прадстаўнікі якога заўсёды трымаліся супольна і дружна, пераадольваючы цяжкасці і праблемы.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

# Обращение

*к руководителям и сотрудникам служб, органов, подразделений внутренних войск, Комитета государственной безопасности, Министерства обороны, других силовых ведомств и структур Республики Беларусь*

СВАБОДА



Уважаемые офицеры, прапорщики и рядовые!

Обратиться к вам вынуждают меня те тревожные события, которые будоражат Беларусь последние два года. Не стану давать политических оценок действиям представителей исполнительной власти. Я хочу только как офицер и гражданин осветить их с позиций права и принципа всеобщего равенства перед Законом. Конституционным Судом Республики Беларусь уже дана правовая оценка отдельным действиям гражданина Лукашенко, находящегося в должности президента. Эта оценка настолько серьезна, что исполнительной власти приходится принимать чрезвычайные меры. Намеченный президентом референдум — это попытка уйти от ответственности, скрыть деяния президентской команды, прямо или косвенно подпадающие под действие Уголовного кодекса Республики Беларусь. Вспомните лишь некоторые эпизоды — избиение народных депутатов, репрессии против независимой прессы и работников минского метро, расправы над участниками мирных санкционированных демонстраций, фактическое участие в крупных экономических преступлениях, нанесших огромный ущерб нашему государству. Ситуация в стране накалилась до такой степени, что Лукашенко и его команда готовы к самым безрассудным действиям. У этой команды нет пути к отступлению. Эти люди перешли черту, за которой — только новые преступления. Человек, присягнувший на Конституции Республики Беларусь, цинично и грубо нарушил ее.

Политики приходят и уходят, а Закон остается. А вы стоите на страже Закона. И служите НАРОДУ, а не отдельным политикам. И когда какие-то группировки пытаются, используя вас в своих интересах, втягивать милицию и армию в свои преступные игры, вы должны помнить о долге и не поддаваться на провокации. За всякое преступление, а тем более за преступление против народа, рано или поздно придется ответить каждому, кто преступил Закон. Сегодня на улицы выходят не бандиты и не наемники западных спецслужб, как это утверждает официальная пропаганда. Лучшие люди нашей страны, те, кто не утратил честь и совесть, отчаянно пытаются остановить наступление диктатуры. Это ваши братья и сестры, ваши отцы и матери. Не поднимайте на них руку. Не становитесь соучастниками преступных деяний высокопоставленных авантюристов.

Диктатура еще никому не принесла счастья и процветания. Ее конец всегда один: исторический тупик, Нюрнберг.

Я обращаюсь к вам, сотрудники всех подразделений специального назначения. Политические авантюристы, готовые ради удержания власти пойти на все, именно на вас сделают главную ставку. Не дайте подставить себя. Не поддавайтесь на провокации безрассудных политиков, свои шкурные интересы поставивших выше страны и народа. Помните, что вы — защитники народа. На вас с надеждой и верой смотрит страна. Истинного офицера и солдата всегда отличают честь и совесть. ЗАЩИТНИК НАРОДА НЕ МОЖЕТ СТАТЬ ЕГО ПАЛАЧОМ.

Я верю вам, надеюсь на вас и желаю вам успехов в вашей нелегкой службе и счастья вашим семьям. Я верю, что все мы будем жить в свободном, процветающем правовом государстве. Иного нам не дано.

**Юрий ЗАХАРЕНКО,**
*экс-министр внутренних дел Республики Беларусь.*

# Шкодна піць, а яшчэ горш — курыць

У навуковай працы прафесара Жозэфа Р.Дыфранза прыводзіцца статыстыка, згодна з якой толькі ў Злучаных Штатах штогод паміраюць ад пасіўнага курэння прыблізна 360 дзяцей.

Шматлікія смяротныя выпадкі — толькі адно з доказаў шкоднасці пасіўнага курэння. Другі аргумент — штогадовае ўзнікненне розных захворванняў на гэтай глебе: 300 тысяч выпадкаў захворвання астмай, 350 тысяч — вуха, 260 тысяч — бранхітам, 115 тысяч лёгачных захворванняў.

У выніку іншага даследавання ў амерыканскім Універсітэце Эмары ў Атланце навукоўцы прыйшлі да высновы: адна цыгарэта, выкураная цяжарнай жанчынай у дзень, на 50 працэнтаў павышае шанц нараджэння разумова адсталых дзяцей. Былі апытаны мамы 221 непаўнацэннага дзіцяці і мамы 400 здаровых дзяцей. Важнейшым вынікам апытання стала думка мам, што нават адна цыгарэта ў дзень павышае рызыку нараджэння непаўнацэннага дзіцяці. Калі ж маці курыць на працягу апошніх шасці месяцаў цяжарнасці, то павышае небяспеку нараджэння хворых дзяцей на 60 працэнтаў. Калі ж яна выкурывае штодзённа пачку цыгарэт — паказчык узрастае да 85 працэнтаў.

Устаноўлена таксама, што калі алкаголік яшчэ і курыць, то ён паміраіе хутчэй ад нікаціна, чым ад гарэлкі. Медыкі вывучылі даныя 845 алкаголікаў у сярэднім ва ўзросце 41,4 года, якія знаходзіліся на лячэнні з 1972 па 1983 год. Сярод іх было 775 курыльшчыкаў, з якіх да снежня 1994 года памёрла 225 чалавек. 50,9 працэнта памерлі ад нікаціна (рак лёгкіх, сардэчныя захворванні), і толькі 34,1 працэнта — ад алкаголю (хвароба печані, страўніка і г.д.).

# W Polsce trzeba mówić po polsku

9 верасня пазваніў я Алегу Латышонку. Размова прадаўжалася недзе 5 хвілін, калі раптам у трубцы нешта затрашчала і зараз нейкі жаночы голас, быццам бы з іншага свету, запішчаў: „halo, halo...". Мінула яшчэ пару секундаў і зусім выразна нейкі асобень прашыпеў у трубку: „W Polsce proszę mówić po polsku". Гутарку трэба было спыніць; не надта прыемна весці размову, калі нават электронныя хвалі нясуць смурод шавіністычнай гангрэны. Прынцыпова ўжо, калі толькі тэлефонная размова вядзецца на беларускай мове, пасля пару хвілін пачынае нешта трашчаць, шыпець, знікае голас. Спачатку думалася мне, што можа тэхніка, прыдуманая нейкім „sarmackim" інтэлектам, неяк дзіўна рэагуе на гук беларускага слова, але, відаць, пастаянны слухач маіх размоў ці то не разумее нашай мовы, ці на працу прыходзіць п'яны, ці, можа, ён проста нейкі антыбеларускі псіхапат, бо штораз больш нервова абслугоўвае тэхніку, якую яму даверылі.

Часта ў Беластоку, калі нехта на вуліцы ці ў аўтобусе гаворыць на беларускай мове, мясцовыя „еўрапейцы" звяртаюць увагу, што „tu jest Polska". Але нават тады, калі таварыш Здзіх Куроўскі змагаўся тут за польскасць беластоцкіх крэсаў, ніхто не перарываў прыватных тэлефонных размоў і нахабна не прыпамінаў, у якой мы жывем рэчаіснасці. Здараецца таксама, што нейкі асобень звоніць у нашу рэдакцыю і пачынае расказваць, што неўзабаве будзе ён рабіць з „кацапамі". Хочацца тады запытаць: дзе і ад каго мог ён навучыцца іншага ўспрымання свету і людзей іншай нацыянальнасці, культуры ці веравызнання?

**Яўген Мірановіч**

# Кавалер Кучма не жалеет, что отвернулся от СНГ

Владимир ВЕРНИКОВ, «Известия»

Президент Украины Леонид Кучма, посетивший Испанию с официальным визитом, стал кавалером Ордена подвески за гражданские заслуги.

Новоиспеченный кавалер столь высокого ордена много встречался и много говорил на испанской земле о проблеме расширения НАТО и стремлении Украины строить особые партнерские отношения с блоком, о разделе Черноморского флота и статусе украинского города Севастополь, о том, что американцы проявляют удивительную забывчивость, когда наступает время платить за отказ Украины от ядерного оружия...

Украина, по его словам, не чувствует себя в изоляции, отвернувшись от СНГ, потому что получает поддержку Европейского союза и, «строя национальное государство, надеется найти свое лицо на карте», так как следует старой украинской поговорке: «Волков бояться — в лес не ходить». Таможенный союз России, Белоруссии, Казахстана и Киргизии — чисто политическое, а не экономическое соглашение, которое не интересует Украину. Киев не боится введения пошлин на свои товары, потому что торговая война невыгодна прежде всего России. Украина не намерена подключиться к ташкентскому соглашению стран СНГ о совместной обороне, а будет развивать свое сотрудничество с НАТО по разным направлениям, хотя и выступает против «новых сфер влияния и разделительных зон в Европе».

Получив заверения своих собеседников в том, что Испания будет оказывать Украине всяческую поддержку в ее стремлении быть принятой в ЕС и в установлении особых отношений с НАТО, Л. Кучма и министр иностранных дел Г.Удовенко подписали договор о дружбе и сотрудничестве между обеими странами, несколько других соглашений экономического и культурного характера и отдельно протокол об обороне. Последний документ предусматривает обмен военной информацией и опытом участия воинских контингентов в миротворческих операциях. В ходе визита Л. Кучма категорически говорил на украинском, чем приводил в состояние шока испанских переводчиков, не успевших освоить украинскую мову.

**МАДРИД.**

Брава! Спадар прэзыдэнт Л. Кучма. Гонар Вам, што Вы ўмееце цаніць сваю мову і культуру!

